# Голас Радзімы

№ 45 (2187)
8 лістапада 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**КАЛІ ПРАГУЧЫЦЬ РАЗВІТАЛЬНЫ МАРШ**

[«Эшалоны ідуць, праблемы застаюцца»]

Стар.3.

**Працягваем друкаваць артыкул навукоўцаў І. ІГНАЦЕНКІ, А. КАРАЛЯ пра жыццё і дзейнасць Усевалада ІГНАТОЎСКАГА**

Стар. 4.

**РОДНАЯ МОВА МІЖ НАС НЕ ЗАСНЕ**

[«З ашчаднасцю працавітага беларуса»]

Стар. 6.

Канстанцыя БУЙЛО

Сонца промні ў лісце запляло.
Нерухомы ў залатым цвіценні
Лес струменіць сумнае святло.
І на небе—хмуры сум асенні.
Дожджык нудны мжыць праз
сіта хмар,
Ўдаль лятуць празрыстыя
аблокі.
Аб вясне прыгожай і далёкай
Ціха сніць узораны папар.

Фота С. КРЫЦКАГА.

ПРАЦЯГВАЕЦЦА ВЫВАД САВЕЦКІХ ВОЙСК

З КРАІН УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ

# ЭШАЛОНЫ ІДУЦЬ, ПРАБЛЕМЫ ЗАСТАЮЦЦА

Злучэнні і часці Савецкай Арміі вяртаюцца з Чэха-Славакіі і Венгрыі на Радзіму. Вывад войск ажыццяўляецца строга па графіку і ў тэрміны, абумоўленыя міжурадавымі пагадненнямі. Адны воінскія часці будуць расфарміраваны, іншыя працягнуць службу. Усяго з краін Усходняй Еўропы да вясны 1991 года будзе выведзена звыш 123 тысяч ваеннаслужачых, некалькі тысяч танкаў і баявых машын пяхоты, сотні баявых самалётаў і верталётаў.

Мне давялося бачыць, як сустракалі першыя падраздзяленні выводзімых войск у маленькім беларускім гарадку — хлебам-соллю, кветкамі, усмешкамі і абдымкамі. Яны вярнуліся з Венгрыі (увод савецкіх войск на тэрыторыю якой сёння прызнаны памылковым). То быў міг урачыстасці нашых знешнепалітычных ініцыятыў, рэльны, адчувальны плён новага палітычнага мыслення, народжанага перабудовай. Здаровы сэнс узяў верх над ідэалагічнымі догмамі. СССР паказаў усяму свету, што трымае арыенцір на агульначалавечыя каштоўнасці. Зусім рэальна сталі выглядаць заманлівыя перспектывы абноўленай Еўропы.

У ліку тых, хто пакінуў Венгрыю першым, батальён пад камандаваннем падпалкоўніка Віктара Турава.

**— Віктар Ягоравіч, што вы адчулі, перайшоўшы мяжу, ступіўшы на беларускую зямлю!**

— Што можа адчуваць чалавек, які вярнуўся на Радзіму? Вядома, радасць. Радзіма — яна і ёсць Радзіма, што тут тлумачыць? Якія б цяжкія часы ні перажывала родная краіна, кожны зведвае трапяткія пачуцці любові і ўдзячнасці да яе.

Увод савецкіх войск на тэрыторыю Венгрыі ў 1956 годзе і на тэрыторыю ЧСФР у 1968-м быў зроблены насуперак волі народаў гэтых краін. Паслаўшы салдат і баявую тэхніку ў чужыя краіны, кіруючыя партыйна-дзяржаўныя вярхі СССР груба парушылі нормы міжнароднага жыцця. Расплачвацца ж даводзілася нам, афіцэрам і салдатам. Ведаеце, колькі разоў за апошнія гады я чуў у Венгрыі за спіной крыўднае, з'едлівае слова-ярлык, што б'е наводмаш: «Акупанты»? Я дык хоць крыху помню тыя далёкія падзеі, хлапчуком быў. А чым правініўся магілёўскі ці гродзенскі хлопец, які нарадзіўся праз 15 гадоў пасля 56-га?

Больш за ўсіх рады вываду войск салдаты і сяржанты. Для іх вяртанне дамоў у Беларусь — нічым не азмрочаная радасць. Прыйшоў канец адседцы за глухімі высокімі платамі, якімі абнесены ваенныя гарадкі, за двайнымі, трайнымі кантрольна-прапускнымі пунктамі. Дома звальненне ў горад атрымаеш, бацькі могуць наведаць, з дзяўчынай сустрэнешся. Ды і шанцаў адпачынак заслужыць тут, на роднай зямлі, больш, чым у Венгрыі. Пасылку мама прышле (за мяжой гэта нязбытная мара), усіх хлопцаў хатнімі ласункамі пачастуеш.

На долю салдат і сяржантаў выпала і менш за ўсё бытавых нязручнасцей. На першым часе яны размясціліся ў палатках. Не лепшае выйсце, вядома, але ніхто не сумуе.

**— Але гэтага, напэўна, не скажаш пра сем'і афіцэраў і прапаршчыкаў. Як яны размясціліся!**

— Так, вось яно, самае вялікае пытанне. Захапіўшыся падлікам скарачаемых і выводзімых дывізій, забывалі нярэдка аб лёсах канкрэтных людзей. Тут, у Саюзе, такая забыўчывасць моцна ўдарыла па нашых людзях, якія апынуліся заложнікамі неўладкаванасці, бытавога бязладдзя і поўнай няпэўнасці.

**— Віктар Ягоравіч, а як размясцілася ваша сям'я!**

— Не лепш, чым многія іншыя. Кватэры ў мяне няма — так склалася, што за 23 гады службы ў арміі не атрымаў жылля. Тут, на Беларусі ў ваенным гарадку, таксама жыць няма дзе. Адправіў жонку і дзвюх дачок-школьніц да мамы ў маленькую вёсачку. Я лічу, што не была да канца прадумана праблема размяшчэння на тэрыторыі СССР войск, якія вяртаюцца дадому. Не сёння ж і не ўчора яна ўзнікла. Наіўна было разлічваць, што пасля 1956 года мы застанёмся ў Венгрыі назаўсёды.

Два, а то і тры гады таму назад можна было пачаць будаўніцтва жылля, аб'ектаў сацкультбыту ў тых гарнізонах, куды меркавалася вывесці войскі. У тым ліку і ў Беларусі. Замест гэтага мы працягвалі будаваць у Венгрыі. Перад самым вывадам нашага батальёна з горада Веспрэм, у маі месяцы, [illegible]а здадзена ў эксплуатацыю [illegible]ляваная па апошняму слову тэхнікі кацельня. Кошт яе звыш сямі мільёнаў інвалютных рублёў. Навошта яе, гэтую кацельню, было будаваць, калі ведалі, што вось-вось пакінем [illegible]рыю? На гэтыя грошы [illegible]а было ўзвесці цэлы жылы [illegible]ў тут, у Беларусі. І не туляліся б нашы сем'і ў казармах, вучэбных карпусах і іншых мала прыстасаваных для размяшчэння жанчын і дзяцей месцах.

А клуб, які мы пад ключ мадзьярам здалі?! Пяць мільёнаў інвалютных рублёў абышлося яго будаўніцтва. Больш за ўсё шкада мне пакінутага парка баявой тэхнікі. Цёплыя, з добрай вентыляцыяй сховішчы, найноўшае дыягнастычнае абсталяванне, тэхналагічныя лініі... У Беларусі не на кожным прадпрыемстве такое знойдзеце. Калі мы будзем мець усё гэта тут?

**— Віктар Ягоравіч, як бы ні складваліся адносіны СССР і Венгрыі, у вас напэўна засталіся ў гэтай краіне сябры!**

— Вядома. Не ўсе ж мадзьяры кідалі нам у спіну з'едлівыя словы і абвінавачванні. Многія, вельмі многія захоўваюць у памяці вясну 1945-га. Савецкая Армія вызваліла Венгрыю ад фашыстаў. За яе свабоду і незалежнасць склалі галовы амаль 140 тысяч нашых салдат і афіцэраў. Такое не забываецца...

А прыгадайце апошнія гады. Помню зіму 1988-га. У Венгрыі яна была, як ніколі, халоднай: маразы, моцныя снегапады. У некаторых населеных пунктах жыццё магло быць паралізавана. Але на дапамогу прыйшлі савецкія салдаты. Вывелі на дарогі танкавыя бульдозеры, разграблі снежныя заносы. Падзяліліся палівам, памаглі даставіць прадукты харчавання. Здаралася, у радзільны дом жанчын на танках адвозілі...

У мяне ёсць сябры ў Венгрыі. Добрыя сябры. Адзін з іх запрашае ў водпуск на Балатон. Калі ўдасца, паеду...

**Васіль ЗДАНЮК.**

*ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

# НЕ МАГУ МАЎЧАЦЬ

Дарагая рэдакцыя, усё, змешчанае ў гэтых радках,— праўда. Цяжка ўспамінаць пра мінулыя гады, асабліва — гады сталінскіх рэпрэсій, сведкам і ахвярай якіх лічу і сябе. Але трэба...

У шаснаццацігадовым узросце за нізку вершаў, прызнаных супрацоўнікамі КДБ «антысавецкімі», трапіў я за краты. Прызнацца шчыра, нічога антысавецкага ў маіх вершах не было, а вось трымаць за іх адказ давялося. Справа мая разглядалася ў Асобай нарадзе, у Маскве, пры НКУС СССР. Тут жа ў пачатку 1941 года і быў пакладзены канец маёй вольнасці, падпісаны прыгавор. Шмат пакут і здзекаў давялося мне перажыць у гады пазбаўлення волі. Успаміны пра гэта ледзяняць душу, не паддаюцца розуму і сэрцу.

Аднак і там, у сырых бараках сталінскіх лагераў, я не пакідаў пісаць вершы, хаця і добра ведаў, што не ўсё яшчэ ў іх напісана гладка, не ўсё яшчэ стаіць на сваім месцы. Пісаў вершы ўпотай ад кіраўнікоў лагераў, хаваў у патаемных ад іх месцах. Не ўсё з напісанага ўдалося зберагчы да дня вызвалення, прывезці на волю. Аднак яны напісаны былі па загаду майго сэрца, памяці маёй. Тэрмін пакарання завяршыўся ў 1949 годзе, рэабілітаваны.

Нізку вершаў прапаную рэдакцыі газеты, яе чытачам і прашу прабачэння за нізкі ўзровень іх майстэрства і якасць. Вось яны, радкі з гэтых вершаў.

**БЕЗ СВЕДАК, ЗАВОЧНА...**

**На лаву падсудных**
**Не трапіў я, не:**
**Без сведак, завочна**
**Судзілі мяне.**
**На мой прыгавор**
**І на справу маю**
**Паставіла «тройка»**
**Пячатку сваю.**

**ЗА ГРЭХ ЯКІ!**

**У лагеры, да лютых катаў**
**На Калыму, на Салаўкі**
**Людзей, ні ў чым невінаватых,**
**Везлі і везлі цягнікі.**
**За грэх які ў пекла здзекаў**
**Трапляе гэты просты люд**
**І ходзіць тут у робе зэка,**
**Заўчасна гіне ад пакут!**
**Забыць такое немагчыма,**
**Такое нельга нам забыць!..**
**Пра гэта ўсё мая радзіма**
**Шчэ будзе доўга гаварыць.**

**ВЯРТАННЕ**

**Не год, не два**
**Насіў я робу зэка,**
**Адчуў нямала**
**Здзекаў і пакут.**
**Сівым, бяззубым,**
**Хворым чалавекам**
**Вярнуўся я з ГУЛАГа**
**Ў родны кут.**

**СЯБРУ-АДНАДУМЦУ**

**Сябар мой, прысядзем на хвілінку,**
**Перад сном пакурым, памаўчым,**
**Хлеба чэрствага апошнюю скарынку**
**Між сабой падзелім і з'ядзім.**
**Заўтра зноў прыступім да работы,**
**Папрацуем у тайзе яшчэ.**
**Праца наша ручайкамі поту**
**Па схуднелых тварах пацячэ,**
**І сачыць за кожным нашым рухам**
**Будзе па-ранейшаму канвой...**
**Не бяда... Галоўнае, братуха,**
**Не упасці духам нам з табой...**

**БЕЛАРУСІ**

**1.**

**Даруй, Радзіма, што ў гады вайны**
**Не ўзяўся я, як іншыя, за зброю,**
**Каб з плеч тваіх няволі кайданы**
**Адкінуць і у бой пайсці з табою.**
**Я не паспеў узяцца за яе.**
**(Прычыны тут былі і перашкоды).**
**Аднак ні ў чым не здрадзіў я табе,**
**Нідзе не здрадзіў і твайму народу.**

**2.**

**Усё, што я у памяці збярог,**
**Што перажыў і адчуваў душою,—**
**Пра гэта ўсё я доўгі час не мог,**
**Як родны сын, пагаварыць з табою,**
**На стол табе пакласці ўсё спаўна,**
**Адкрыць як след усе свае сакрэты...**
**О, Беларусь, тут не мая віна.**
**Не будзь у крыўдзе на мяне за гэта.**

**Уладзімір АРЛОЎ,**
**былы вязень ГУЛАГа.**

*АД СЭРЦА ДА СЭРЦА*

# ЗДАРОЎЕ ДЗЯЦЕЙ — УЗНАГАРОДА ЗА ДАБРАЧЫННАСЦЬ

«Голас Радзімы» паведамляў ужо, што з той небагатай колькасці замежных суайчыннікаў, хто і словам і справай дзейсна адгукнуўся на пагрозу «павольнага» вынішчэння беларускага народа «мірным атамам» Чарнобыля, апошнім часам вызначыліся прыхаджане рускай праваслаўнай абшчыны ў Чыкага. Яны накіравалі Беларускаму таварыству «Радзіма» ахвяраванні агульнай вагою 890 кілаграмаў. Хоць і не без фінансавага «пірацтва» з боку ўсемагутнага Аэрафлота, але каштоўны груз, дзякаваць Богу, дайшоў да адрасата. І ўжо праз некалькі дзён, у сярэдзіне кастрычніка, таварыства «Радзіма» арганізавала з нагоды перадачы дарункаў невялікую сустрэчу з грамадскасцю і органамі масавай інфармацыі, на якой гэты дар суайчыннікаў са Злучаных Штатаў, 24 тысячы аднаразовых шпрыцаў і 3 400 камплектаў полівітамінаў, быў размеркаваны сярод прадстаўнікоў некалькіх рэгіёнаў і медыцынскіх устаноў Беларусі.

І пакуль гэты дабрачынны дар недзялімым грувасціўся ў цесных пакойчыках таварыства, ён выглядаў уражліва. А як раздзяліўся, паверце, без душэўнага смутку нельга было ўспрымаць гэту карціну. Напрыклад, той жа Гомельскай абласной бальніцы «дасталіся» 4 тысячы аднаразовых шпрыцаў і 696 упаковак вітамінаў. На нейкі тыдзень карыстання... І адразу ж напрошваецца: аднак жа гэта лепш, чым нічога! Пры чым тут амерыканскія беларусы? Ім, як гаварылася на сустрэчы, наша бязмернае дзякуй! На тым бы і паставіць кропку. Але абставіны склаліся такім чынам, што ў нас ёсць мажлівасць паглядзець на гэтую з'яву з берагоў возера Мічыган, з горада Чыкага. Паглядзець вачамі нашай суайчынніцы, якая сваім падрабязным і шчырым пісьмом дае і перадгісторыю гэтай дабрачыннай акцыі, і дэталі, і прагноз на будучыню. Ёй і слова.

«Паважаныя сябры! У чэрвені гэтага года па лініі таварыства «Родина» ў Чыкага знаходзілася дэлегацыя з Савецкага Саюза. У яе складзе былі і прадстаўнікі Беларусі. Члены Грамадзянскай асацыяцыі «Гумбальт Парк» мелі сустрэчу з гэтай дэлегацыяй. Трэба сказаць, што ў асацыяцыі «Гумбальт Парк» многа беларусаў, сваякі якіх пражываюць у БССР. Пагэтаму мы папрасілі прадстаўнікоў Беларусі расказаць аб жыцці рэспублікі і аб выніках аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Да нядаўняга часу ў нас не было поўнага ўяўлення аб сапраўдных маштабах бедства. У час гутаркі мы даведаліся, што семдзесят працэнтаў тэрыторыі Бацькаўшчыны забруджана радыяцыяй. Асабліва пацярпелі дзеці, якія патрабуюць неадкладнай дапамогі. У першую чаргу патрэбны полівітаміны і аднаразовыя шпрыцы, а рэспубліка ў цяперашні час не можа сама саўладаць з трагедыяй. Прадстаўнік Беларусі звярнуўся з просьбай аказаць дапамогу беларускім дзецям.

Пасля гэтай размовы настаяцель Свята-Уваскрэсенскага рускага праваслаўнага храма ў Чыкага протаірэй Уладзімір Кандраценка ў час богаслужэння звярнуўся да ўсіх прысутных у храме з заклікам прыняць удзел у ахвяраванні сродкаў для дапамогі дзецям Беларусі, што пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі. Адзначыў ён і тое, у якім цяжкім становішчы апынуўся беларускі народ.

Потым адбыўся прыходскі сход, дзе было вырашана аказаць дапамогу хворым дзецям. Была створана камісія па збору сродкаў. Састаў камісіі: протаіерэй Уладзімір Кандраценка (старшыня), Павел Лютка, Джун Мека, Аляксандр Касевіч, Паўліна Білецкая. З касы «Гумбальт Парка», Руска-амерыканскага жаночага таварыства «Чыкага», царкоўнай касы, касы сястрынства Свята-Уваскрасенскага храма былі выдзе-

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

І зразумела, трапляе ў вір палітычнай барацьбы. БСГ к гэтаму моманту была ўжо на мяжы расколу. Левае крыло партыі пайшло на арганізацыйны разрыў з «правым» і стварэнне разам з левазэраўскімі арганізацыямі Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р). Натуральна, што Ігнатоўскі прыняў актыўны ўдзел у стварэнні новай партыі, але ў яе склад, таксама як і ў ЦК, ён увайшоў толькі ў верасні як прадстаўнік арганізацыі «Маладая Беларусь», якая атрымала ў партыі статус аўтаноміі.

# ЛІХТАРЫК ЖЫЦЦЯ У. ІГНАТОЎСКАГА



У ЦК БПС-Р Ігнатоўскі займаючы крайне левыя пазіцыі, выступаў за наладжванне кантактаў з падпольнымі камуністычнымі арганізацыямі. Ён не прыняў палітыку арганізаванай 18 сакавіка Рады БНР, яе прагерманскую арыентацыю, (нават з тактычных меркаванняў), у чым бачыў галоўную прычыну адарванасці яе ад нас. «Не маючы сувязі з працоўнымі масамі, — напіша ён пазней у артыкуле «Вялікі Кастрычнік на Беларусі, — яна (Рада. — І. І. і А. К.) ускладае свае надзеі на каранаванага акупанта і канчаткова губіць усякую магчымасць калі-небудзь абаперціся на гэтыя масы». Гісторык, палітык і патрыёт, ён добра ўсведамляў, што акупацыйная ўлада — улада заваёўніка, і яна не можа даць волі парабаванаму народу, і ніяк інакш народам ніколі не ўспрымалася. Аднак на разрыў з БПС-Р У. Ігнатоўскі ў той час яшчэ не ідзе, спадзеючыся на паварот, калі не ўсёй, дык значнай часткі партыі да супрацоўніцтва з бальшавікамі. Ён быццам спыніўся на раздарожжы, калі ранейшыя сімвалы веры пабляклі ўжо, а новыя не набылі выразнасці.

Ці не гэтым і тлумачыцца яго пазіцыя пасля вызвалення тэрыторыі Беларусі: адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці, увесь аддаўся культурна-асветніцкай — вёў педагагічную работу, арганізоўваў курсы беларусазнаўства, садзейнічаў адкрыццю беларускіх школ, культурна-асветніцкіх устаноў. Хаця была таму і яшчэ адна прычына. Ён несумненна бачыў усе складанасці і цяжкасці працэсу дзяржаўнага самавызначэння беларускага народа. Прычым не толькі аб'ектыўныя, але і суб'ектыўныя, выкліканыя супраціўленнем кіраўніцтва Паўночна-Заходняга абласнога камітэта Расійскай Камуністычнай партыі бальшавікоў стварэнню суверэннай Беларускай Савецкай Рэспублікі. Але калі пад уздзеяннем беларускіх камуністычных секцый Белнацкому пры актыўнай падтрымцы ЦК РКП(б) гэта супраціўленне было пераадолена і Савецкая Сацыялістычная рэспубліка Беларусь (ССРБ) створана, паступова мяняецца і пазіцыя Ігнатоўскага.

І таму заканамерны наступны, ужо выраш[illegible]ы яго крок да бальшавікоў, зроблены ў перыяд польскай акупацыі. Не валодаючы поўнай інфармацыяй аб намерах урада Пілсудскага, не ведаючы яго сакрэтных рашэнняў, але аналізуючы развіццё яго г[illegible]чнай палітыкі ў адносі[illegible] да Беларусі, Ігнатоўскі беспамылкова зразумеў, што абяцанні ўключыць Беларусь у склад Польскай дзяржавы на федэратыўных правах прыкрываюць анексіяніцкія планы кіруючых колаў Польшчы. Ён не прымае прапольскую арыентацыю шэрагу беларускіх нацыянальных дзеячаў і выходзіць з партыі беларускіх эсэраў, як сам потым тлумачыў, «па прынцыповай прычыне», не падзяляючы яе тактыку барацьбы на два фронты — супраць польскіх акупантаў і супраць Савецкай улады.

Працяг. Пачатак у № 44.

## РАЗАМ З БАЛЬШАВІКАМІ

У снежні 1919 года па яго ініцыятыве з БПС-Р парывае арганізацыя «Маладая Беларусь». Відавочна, што такая акцыя Ігнатоўскага і іншых рэвалюцыйна настроеных членаў арганізацыі, у прыватнасці, Язэпа Каранеўскага, Алеся Сташэўскага, Сцяпана Булата, Міхася Чарота (Кудзелькі) ішла далей. 1 студзеня яны стварылі ў Мінску арганізацыйны цэнтр Беларускай камуністычнай арганізацыі (БКА), які часова ўзяў на сябе абавязкі ЦК і заявіў аб прызнанні праграмы і тактыкі РКП(б). У праграмным дакуменце, напісаным У. Ігнатоўскім, указвалася, што БКА «дамагаецца ладу Савецкай Беларускай рэспублікі, спадзеючыся на дапамогу Савецкай Расіі, з якой Савецкая Беларусь знаходзіцца ў федэратыўнай сувязі».

У канцы лютага ў Мінску адбылася нарада прадстаўнікоў падпольных груп («пяцёрак»), дзе быў выбраны пастаянны ЦК БКА: У. Ігнатоўскі — старшыня, С. Булат і Я. Каранеўскі — члены. У многіх паветах пад кантролем БКА дзейнічалі «сялянскія дружыны». Колькасць іх членаў у хуткім часе дасягнула дзвюх тысяч чалавек. Наладзіўшы сувязі з Рэўваенсаветам Заходняга фронта, з ЦК КП(б) Літвы і Беларусі і мясцовымі бальшавіцкімі арганізацыямі, БКА паслядоўна вяла барацьбу з польскімі інтэрвентамі, садзейнічала аднаўленню Савецкай улады.

Вывад некаторых аўтараў з ліку беларускай эміграцыі, што ў асобе БКА Ігнатоўскі імкнуўся стварыць самастойную, незалежную ад РКП(б) беларускую нацыянальную камуністычную партыю, дакументальна не пацвярджаецца, супярэчыць вядомым фактам. Меркаванне гэта, дарэчы, не новае, хвост яго цягнецца з 20-х гадоў. Каму б яно ні належала, сябрам ці ворагам Ігнатоўскага, з якой бы мэтай ні было напачатку выказана — узвысіць творцу БКА ці, наадварот, выклікаць да яго падазронасць, — у рэшце рэшт менавіта яно адыграла ў лёсе Усевалада Макаравіча злавесную ролю, стала ці не адным з асноўных пунктаў абвінавачванняў супраць яго, а затым і супраць шэрагу іншых стваральнікаў БКА.

З вызваленнем Беларусі ад польскай акупацыі зноў паўстала пытанне аб яе дзяржаўным самавызначэнні. І зноў аднадушнасці не было. І зноў сутыкнуліся дзве палітычныя лініі: на аднаўленне беларускай савецкай дзяржаўнасці і на ўключэнне Заходняй вобласці (у рамках Мінскай губерні) у склад РСФСР з захаваннем за ёю правоў культурна-нацыянальнай аўтаноміі. Першую актыўна адстойвалі беларусы-камуністы, якія на той час апынуліся на Заходнім фронце (А. Чарвякоў, З. Жылуновіч, І. Клішэўскі, А. Гурло, З. Чарнушэвіч і інш.), іх падтрымлівала большасць членаў ЦК РКП(б). Другую — прыхільнікі пазіцыі А. Мяснікова (на той час члена Абласнога бюро ЦК РКП(б) на Беларусі і Літве), у ЦК Кампартыі Літвы і Беларусі перш за ўсё Кнорын, Пікель, Рэйнгольд, Калмановіч. У. Ігнатоўскі быў сярод першых. Іх лінія і перамагла. Цэнтральнае бюро КП(б)Б выступіла з ініцыятывай аднаўлення Сацыялістычнай Савецкай Беларусі на прынцыпах, закладзеных 1 студзеня 1919 года. Яно ўступіла ў перагаворы з ЦК БКА, ЦК Бунда, ЦК БПС-Р і Цэнтральнага бюро прафсаюзаў. Іх вынікам і стала Дэкларацыя аб абвяшчэнні ССРБ, абнародаваная 31 ліпеня 1920 года. Кіраўніцтва БПС-Р, аднак, адмовілася падпісаць дэкларацыю. Ад ЦК БКА ў на[illegible] і гэтага гістарычнага да[illegible] ўдзельнічаў У. Ігнатоўскі. Увайшоў ён і ў склад створанага 16 ліпеня 1920 года Часовага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта ССРБ (разам з А. Чарвяковым, І. Адамовічам, А[illegible]йнштэйнам), якому напач[illegible] належала ўся паўната ўлады на тэрыторыі рэспублікі. У снежні 1920 года адбыўся ІІ Усебеларускі з'езд Саветаў, які ўхваліў работу ВРК і прызнаў яго функцыі вычарпанымі. Дэлегаты выбралі Цэнтральны выканаўчы камітэт і сфарміравалі Савет Народных Камісараў рэспублікі. Пасаду старшыні абодвух органаў яны даручылі А. Чарвякову. Пасаду наркома земляробства заняў У. Ігнатоўскі.

У падпольнай барацьбе з акупантамі канчаткова вызначыўся і яго палітычны выбар, гэтак жа, як і створанай ім камуністычнай арганізацыі. Да моманту вызвалення Мінска ў кіраўніцтва і членаў БКА ўжо выспела ідэя аб'яднання з Кампартыяй Літвы і Беларусі, аб чым яны і заявілі ў сваім першым жа пасля вызвалення Беларусі дакладзе ў ЦК КПБіЛ. У палітычнай справаздачы ЦБ КП(б)Б ІІІ з'езду (20—25 лістапада 1920 года) чытаем: «Беларуская Камуністычная арганізацыя, якой кіруе тав. Ігнатоўскі і якая мае некалькі дзесяткаў ячэек на месцах, заявіла, што яна цалкам стаіць на платформе РКП, прымае яе праграму, статут і тактыку і жадае як арганізаванае цэлае ўвайсці ў Камуністычную партыю Беларусі. ЦБ КПБ прызнала, што БКА сапраўды зжыла свае ілюзіі і рэшткі нацыяналізму і пастанавіла прыняць яе членаў у рады партыі, паколькі супраць асобных з іх не будзе індывідуальных адводаў. Павятовым камітэтам Кампартыі Беларусі было дадзена адпаведнае ўказанне, і да 20 жніўня БКА спыніла сваё існаванне».

Прыём праводзіўся па спісах, складзеных кіруючымі органамі БКА. У архіве захавалася некалькі з іх, напісаных уласнаручна У. Ігнатоўскім. Сам ён быў прыняты ў члены РКП(б) 30 ліпеня 1920 года.

Больш за 15 гадоў заняў у яго гэтым шлях: ад рэвалюцыйнага дэмакратызму леванародніцкага кірунку з ухілам у нацыянальны дэмакратызм — да бальшавізму. Ён прыйшоў да бальшавізму праз супастаўленне праграм і тактыкі розных партый з рэальнымі вынікамі іх дзейнасці. І таму ў далейшым, глыбока вывучаючы марксісцкую філасофію, успрымаў яе творча. Яго магутны інтэлект гісторыка-прафесіянала і практыка-рэвалюцыянера, прывучанага да параўнальнага аналізу з'яў і ідэй, выключаў для яго ўспрыняцце палажэнняў марксізму ў іх спрошчана-лозунгавай форме як ісцін у апошняй інстанцыі. Метад пазнання і перабудовы свету — менавіта гэта ён перш за ўсё ўбачыў у марксізме. Ён быў у ліку першых, хто яшчэ на выхадзе 20-х гадоў адчуў, як скажае, дагматызуе вучэнне Маркса, вучэнне Леніна той напрамак у палітыцы, які ў хуткім часе назавуць сталінскім. І ў тым будзе яшчэ адна з падспудных, але сапраўдных прычын, па якіх ён апынецца ў ліку першых яе ахвяр. На пачатку ж 20-х давер партыі камуністаў Ігнатоўскаму быў поўным.

**Іларыён ІГНАТОЎСКІ,**
**Аляксей КАРОЛЬ.**

(Працяг будзе).

# ЗДАРОЎЕ ДЗЯЦЕЙ — УЗНАГАРОДА ЗА ДАБРАЧЫННАСЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

лены для гэтага значныя сумы. Таксама зроблены асабістыя ахвяраванні, пачынаючы з настаяцеля. Сабрана 15 915 долараў. Вырашылі за гэтыя грошы купіць полівітаміны і аднаразовыя шпрыцы і накіраваць непасрэдна ў Мінск. На наступным сходзе дамовіліся выслаць медыкаменты на адрас таварыства «Радзіма». Полівітамінаў закуплена на 9 917 долараў, аднаразовых шпрыцаў на 5 998 долараў. Усё гэта адпраўлена самалётам Аэрафлота ў сталіцу БССР.

Протаіерэй Уладзімір Кандраценка звярнуўся да настаяцеляў іншых праваслаўных храмаў, якія маюць у сваіх прыхадах беларусаў, з прапановай арганізаваць збор сродкаў для ахвяр ЧАЭС.

Мы, прыхаджане Свята-Уваскрасенскага храма, спадзяёмся, што людзі з іншых праваслаўных прыходаў падтрымаюць гэтую ініцыятыву. Наша асацыяцыя будзе працягваць пачатую добрую справу. Хутка зноў будзе аб'яўлены збор сродкаў. У сучасны момант ад некаторых людзей, хто прыняў блізка да сэрца гора беларускіх дзяцей, паступаюць ахвяраванні. Калі створаная намі камісія збярэ пэўную суму, дык мы, як і ў мінулы раз, закупім медыкаменты і адашлём вам.

Наша абшчына сардэчна дзякуе кожнаму, хто прыняў удзел у міласэрнай акцыі. Верым, што і надалей спагадлівыя людзі будуць працягваць пасільную дапамогу і кожнае дзіця ў Беларусі, якое паправіцца, будзе ім жывой узнагародай. **Джун МЕКА».**

Гэты і іншыя прыклады міласэрнасці з боку замежных суайчыннікаў даюць падставу спадзявацца на стварэнне супольнага з імі «фронта» барацьбы за выратаванне Бацькаўшчыны.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**



У час уручэння ахвяраванняў у Беларускім таварыстве «Радзіма».

Фота С. КРЫЦКАГА.

# THE HUNDREDTH BIRTHDAY OF MAKSIM BAGDANOVICH

In 1991 the people of Byelorussia will celebrate the hundredth birthday of Maksim Bagdanovich, one of the founders of modern Byelorussian poetry.

Born in 1891 in Minsk, the poet spent the greater part of his life away from his native land. It was in Nizhni Novgorod where the family moved to in 1896 that M. Bagdanovich began to write verses in his mother tongue.

After finishing the gymnasium in Yaroslavl he went to Vilno where in 1913 his verse collection "Garland" was printed. It was the first and only book, published during his lifetime.

The poet's inexhaustible love is his native Byelorussia to which he devotes many inspired lines. M. Bagdanovich's poetry enchants the reader with its peculiar deep colouring, harmony, vividness of images and sincerity.

In 1916 he graduated from the Lyceum of Law in Yaroslavl and went to Minsk where he worked for some time until he felt very unwell. The serious disease from which he had been suffering for many years forced him to go to the Crimea to undergo a cure. There, in 1917, he died in complete solitude at the age of twenty-five.

Today in his native city of Minsk stands a bronze monument, a tribute of the Byelorussian people to their poet.

Now a collection of M. Bagdanovich's verses is being translated into English by Anisiya Prokofieva to mark the centenary of the poet. Some of them we present to our readers.

**L. CORTES**

**D'you hear the noise? It's a sullen wood-goblin there**
**Starts to play in his own way again.**
**At a touch of his hands, slender pines in despair,**
**As if thousands of strings, drawn too tight, everywhere,**
**Spreading weariness, ring and complain.**

**Need you say why the streamlet has hushed on its way**
**And the ears in the cornfield stand still,**
**And what fluttering zephyrs whisper while they stray,**
**And what, then, on the willow leaves, trembling does play:**
**Tears or dew-droplets limpid and chill?**

***

**Fare thee well, o sunset glowing, good night!**
**Dusk already screens the earth from thy light,**
**Every thing in a sombre veil wrapping,**
**Starry dust over heaven scattering.**
**Soothing quietude and lull, my heart they seize,**
**There sways the lonely pear-tree in the breeze**
**That amid the leafy branches does play,**
**Little bells in the distance die away,**
**Silver-like rings the brooklet here, in sight —**
**Fare thee well, o sunset glowing, good night!**

### IN WINTER

**Hail to you, Eve, with hard frost ringing!**
**Hail to you, snow, upon my way!**
**No longer is the blizzard singing**
**And free — the running of the sleigh.**

**White, phantom-like birches stand stone-still**
**Beneath the blueness of the night;**
**The stars a-shivering with the chill**
**Pour forth from heaven their cold light.**

**The moon, above the meadow sailing,**
**Her beams transparent downward threw,**
**A silver cover, freely spreading,**
**She veiled with it snow showing blue.**

**Oh, steeds, plough up the snowy plains**
**With speady hoofs. Ring out, oh bells!**
**The blood starts boiling in my veins**
**And past fly forests, fields and dells!**

* * *

**O'er the cherry-trees' white down,**
**Like a bluey little light,**
**Flutters, dances round and round**
**A blue-wingéd moth, so slight.**

**From the clear heavens down ward**
**Stretch the sunny golden strings**
**In the air, gently ringing,**
**Hardly touched by fragile wings.**

**And the song, what wave-like flows,**
**Is a fine, soft hymn to Spring.**
**Is't my soul in elation**
**Has begun for me to sing?**

**Maybe 'tis the spring-tide zephyr**
**Stirs the grasses green and high,**
**Or the rushes by the river —**
**Rushes dry and slender — sigh?**

**None can answer these questions,**
**Neither can one realize**
**Why I, here, stay unthinking**
**As the song, vibrating, flies.**

**And the song still flows and flows**
**Rising to the sphere sunlit,**
**But who will hear it? None knows...**
**Maybe only the poet.**

### THE LAKE

**In the goblet deep and darkling**
**Frothy wine silvers slightly,**
**All the while champagne-like sparkling,**
**Ripples coldly and lightly.**

**Noisy is the forest's breathing,**
**Swaying sedge its freshness flings**
**And the heart — full of unceasing,**
**Blissful strains of merry strings.**

***

**The burning candle flickers there,**
**To make the dark withdraw it tries.**
**Its flame's truly a magic where**
**Attractive, living Beauty lies.**

**The moth with pain fluttering near,**
**Allured by fire, emerged from gloom,**
**Against his will, forgetting fear,**
**He seeks the flame to meet his doom.**

**Its light the burning candle flings**
**And from it drops the wax like dew.**
**The moth has ceased to beat his wings —**
**Oh, Beauty, he's a prey to you!**

# Back to National Roots

**The Francisk Skorina debating club formed one year ago at the Byelorussian Technological Institute enjoys growing popularity among students and lecturers. The debates are not only focussed on the past but also deal with current national problems.**

"The club was brought into being on the initiative of students", says Nikolai Tsmug, club chairman, a 35 year-old researcher of the institute. "Today our young people are more interested than ever in the history, culture and language of the Byelorussian people. Until recently few of them considered these problems. Educated in the spirit of Stalin-Brezhnev quasi-internationalism, we gradually lost sight of our national spiritual values. No one would have been surprised, for example, if a school-leaver was better versed in the history and culture of ancient Rome than his own history. It was considered quite normal to have a poor command of the national language. Ideological vigilantes went out of their way to muzzle those cultural workers who tried to sound the alarm. Perestroika alone has made it possible to halt this ruinous process. The problems of our national renaissance are now openly discussed in society and on the campus."



The 500th birthday of Francisk Skorina in Minsk.

I attended sessions at the Skorina club and witnessed heated discussions there. One such discussion concerned the origin of the Byelorussian nation. The speakers on the subject were two guest historians who took different views on the matter. One of them, Nikolai Yermolovich, believes that the Byelorussians and the remnants of the assimilated Baltic tribes formed an independent principality in the 13th century with a capital on the site of the present provincial town of Novogrudok, which later formed the core of the Great Lithuanian Principality which existed till the end of the 18th century. His opponent Doctor of History Mikhail Pilipenko supported the generally recognized theory of the genesis of Byelorussians from the common Russian substratum gathered round ancient Kiev. After a long discussion all agreed that truth can be found only in an honest scholarly discussion when each scholar has a chance to make public and defend his point of view.

"At the club you discover ever new pages of our national history," says Frantisek Shvaibovich, a student at the faculty of chemical technologies. "I feel awkward to admit that just three years back I did not even guess that our history, especially the medieval period, was so interesting. In our school years, I remember, we avidly read Alexander Dumas' novels and envied the French for their remarkable past. But the 1,000-year long history of the Byelorussian people was completely unknown to us."

"But we are interested not only in the remote past," added Igor Mikhno, a forestry faculty student. "We also speak at the club about the events of more recent history in which there are still gaps. Take, for example, the activity of the first government of Byelorussia which came to power as a result of the socialist revolution of 1917 and which actively promoted the national-democratic revival of Byelorussia, and the development of the Byelorussian language and culture. We know next to nothing about this. Thus, the fact was carefully concealed from us that of the 19 members of this government only one died a natural death, while the rest died at the hands of Stalin's butchers. But despite all the ordeals which befell our people, we survived and now is surely our last chance to assert ourselves as a nation, to revive our native language, national culture and traditions."

Concrete steps to achieve this are being taken at the technological institute. In the past, tuition was exclusively in Russian, just as at all other technical colleges in the republic. Now the Byelorussian language is being gradually reinstated. The first subject to be taught in two languages was political economy. Approximately 40 per cent of students prefer to hear lectures in their native tongue. Soon other subjects will be taught in Byelorussian. This does not meet with any administrative opposition. The rector of the institute Professor Ivan Zharsky gives all possible support to the nationally conscious students. Courses have been started at the institute for students and lecturers wishing to learn the Byelorussian language. The history of the culture of the Byelorussian people was introduced as a new subject at all faculties.

National nihilism is gradually giving way to national patriotism.

**Igor GERMENCHUK**

# A FRIENDLY CONTEST

**The Byelorussian vocational school is actively contributing to the expansion of international cooperation.**

There are over 220 vocational schools in Byelorussia where young people, while getting general education, qualify in their chosen trade. School No. 117 in Minsk trains future workers for the ball-bearing industry. The school has also emerged on the world scene as the sponsor of a craftsmanship contest.

Such contests are not a novelty, for they have been held since 1973 by the member countries of the Organization for Cooperation in the Bearing Industry. Some of the former graduates of School No. 117 have been taking part in some of them. But this was the first time that the school was the sponsor, hosting in Minsk young fitters, turners and milling machine operators from the German Democratic Republic, Czechoslovakia, Poland, Bulgaria and other countries.

"Being aware of the importance of the contest, we gladly assumed the task of holding it," say school instructors. "Such a form of cooperation in which young workers pass on their experience and know-how in a friendly contest is extremely important because it raises the technical standards of production to a new level."

The contest in Minsk followed the traditional lines: young people were given concrete assignments in their specialities which they were required to fulfil quickly and expertly using the latest work methods. This was a test of their theoretical and general knowledge.

The instructors generously shared their pedagogical discoveries and sought solutions to our common problems. There is one interesting aspect of these contests which should be emphasized: since 1977 they have been a test not only of the professional craftsmanship of young workers but also of their creative technical abilities. The Minsk contest was not an exception. Eeach delegation brought visual aids for the instruction process which they had made themselves. All these aids were left behind as a token of appreciation of the efficient organization of the contest.

During their stay in the capital of Byelorussia the contest participants visited many large enterprises, museums, theatres and also a collective farm.

When the contest was over, the people of Minsk rejoiced that their team had won.

The next contest will be held in Poland.

**Yelena MISHINA**

**Новы спектакль «У ціхім балоце..» паказаў сталічнаму гледачу тэатр-студыя «Жэст». Заснаваны студэнтамі Мінскага інстытута культуры, гэты калектыў ужо не раз радаваў мінчан цікавымі работамі. Сёлета ён паспяхова гастраляваў у ФРГ.**

**Прэм'ера «Жэста» вырашана ў жанры буфанады, пластычнага гратэску. Спектакль складаецца з чатырох кампазіцый — ад пластычнай прытчы па водле матываў сюжэтаў традыцыйнага кітайскага тэатра да сучасных пародый на тэмы нашага сённяшняга неўладкаванага жыцця.**

**«Жэст», які паказаў прэм'еру на сцэне тэатра кінаакцёра, працягне тут свае выступленні.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна з кампазіцыі «Вальпургіева ноч».**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**



*Апанас* ***ЦЫХУН — ПЕДАГОГ, КРАЯЗНАВЕЦ, ПАЭТ***

# З АШЧАДНАСЦЮ ПРАЦАВІТАГА БЕЛАРУСА

Здаецца, і часу ўжо нямала прайшло, але запомнілася тая першая сустрэча на вясковай вуліцы з мясцовым інтэлігентам. Тады, пасля знаёмства з Гродзенскім абласным гісторыка-археалагічным музеем, мне захацелася паглядзець на адзін са школьных музеяў. Выбраў Лашу — радзіму Я. Карскага. Наш не вельмі прэзентабельны, але зручны для непрадбачаных умоў аўтаклуб падкінуў мяне ў недалёкае ад Гродна сяльцо.

Сядзім надвячоркам на лаўцы з настаўнікам-краязнаўцам Апанасам Цыхуном, разважаем пра музей, пра постаць акадэміка-земляка, пра жыццё-быццё самой вёскі. Разважалі, думалі. Не ўсё, можа, і дагаварылі, але добра разумелі адзін аднаго. Стары краязнавец расказваў маладому. Дагэтуль я думаў, што мой субяседнік захоплены толькі тым, што звязана з Карскім. Ён жа аказаўся краязнаўцам у поўным сэнсе гэтага слова і найперш вывучыў сваю родную Кунцаўшчыну, таксама гродзенскую вёсачку.

— Наша вёска атрымала назву хутчэй за ўсё ад колішняга абшарніка Яна Кунца. Пазней належала пану Вандаліну Пуслоўскаму, уладальніку маёнтка Свіслач Дольная. Перад першай сусветнай вайной тут было 18 двароў на 190 дзесяцінворнай зямлі. Пра занятасць таго ж В. Пуслоўскага сведчыць тое, што ён пасля адмены прыгоннага права ніяк не хацеў развітацца са сваім ранейшым становішчам уласніка. Адзінаццаць гадоў кунцаўцкія сяляне вялі судовую цяжбу са сваім панам аж да 1875 года, і суд аказаўся на баку апошняга. У нашай вёсцы найболыш было Цыхуноў і Саляёў. Былі яшчэ Краўцэвічы, Баламуты, Каралі, Пыхі ды Ахрамовічы. Аўтарытэт старэйшага ў сям'і быў вельмі высокі. Адночы Карскі ў Кунцаўшчыне чуў, як стары бацька Сцяпан Краўцэвіч сабраў чатырох сыноў і кажа: «Дзеткі маі роднюсенькі! Вы бачыце, што я зусім хворы і, здаецца, што ўжэ не выйду з гэтай хваробы, то ты, Ясю, застанешся гаспадаром, а вы, дзеткі, і слухайце яго, як старэйшага брата, бо ён варты, каб яго слухаць, бо ён не распутнік, ужэ жанаты... да не забывайце, дзеткі, брата сваяго Казіміра, што ў маскалях». Пасля хваробы звярнуўся да сваёй сыновай (нявесткі): «І ты, Багуська, не крыўдзь нікога, але ўсе шануйце адно другога, то вас людзі і Бог будуць любіць...»

Гэта педагагічная спадчына роднай вёскі, і ёю даражыць Апанас Пятровіч.

— А старая ваша вёска?

— Калі яна ўзнікла — цяжка сказаць. Належыць даследаваць, і адкуль яе першыя пасяленцы. Усе яны лічаць сябе беларусамі. Мова наша чыстая. Толькі ў дзеясловах замест — -ся вымаўляюць -са (наеўса, напіўса, памыўса), дык нас лінгвісты называюць «сакунамі» з-пад Гродна.

— Чым яшчэ прыкметная ваша вёска?

— Побач з вёскай, нібы вартавыя, з узнятымі ў неба крыламі стаялі даўней два ветракі. Над К[illegible]цаўшчынай узвышалася в[illegible]ая таполя з буслiным гняздом. Кажуць, пасадзіў яе мой прадзед Мацей Цыхун. Буслоў у нас лічылі святымі, іх ніхто не крыўдзіў, яны нібы ахоўвалі вёску ад няшч[illegible]яў, хвароб, голаду, пажа[illegible] пошасцяў. На жаль, як толькі пачалася першая сусветная вайна, загадана было ўсім пакінуць вёску і мы сталі паязджанамі. На фурманках дабраліся да Шклова, там здалі дзяржаве коней і адправіліся ў глыб Расіі — у Шую. Праз нейкі час вярнуліся дадому, а ў нашай Кунцаўшчыне адна хата ды дзве адрыны засталіся. Усё спалілі кайзераўцы.

Потым пра А. Цыхуна мне расказваў дацэнт з Гродна Аляксей Пяткевіч, пра яго стараннасць краязнаўцы, якому дарагая памяць славутых землякоў краю, пра яго любоў да роднай мовы і літаратуры, пра такт педагога.

Беручы ў рукі гродзенскія выданні, зноў бачыў знаёмае прозвішча. Больш за ўсё Апанас Пятровіч пісаў пра Я. Карскага. Гэта і натуральна. Ён доўга вывучаў жыццё і навуковую дзейнасць вучонага-земляка, стварыў яму мемарыяльны музей, падрыхтаваў альбом «Я. Ф. Карскі. Жыццё і творчасць». Пісаў шмат пра паэта Міхася Васілька, пра астранома, асветніка, гуманіста Марціна Пачобута-Адляніцкага, пра беларускага паэта і педагога XIX стагоддзя І. Легатовіча, пра даследчыка-ўсходазнаўца В. Кавалеўскага, пра паэта-перакладчыка Клімента Якаўчыка, пра настаўніка, заснавальніка першай народнай бібліятэкі на Гродзеншчыне А. Зінькевіча...

Жыццё Апанаса Пятровіча няпростае: шмат бачана, перадумана, адчута ўласнай існасцю. Нарадзіўся ён 5 мая 1910 года ў кунцаўскай беднай сялянскай сям'і. Бацька быў забраны на першую сусветную вайну, быў непасрэдным удзельнікам Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе ў бранявым атрадзе. Пасля сям'я вярнулася зноў у сваю Кунцаўшчыну — спаленую, зняверчаную, зарослую крапівой. Вярталіся з усіх краёў Расіі людзі і сталі абжывацца. Пачалі з зямлянак, буданоў, а там і хаты пабудавалі. Потым памерла маці, і пачаліся пакуты сіроцтва. Беларускіх школ паблізу не было, пайшоў у польскую ў Лашу, потым у Індуру, таксама польскую, толькі ўжо «паўшэхную».

І нарэшце вытрымаў конкурсны экзамен у Гродзенскую польскую настаўніцкую семінарыю. Хоць і вучыўся добра, але адчуў пагарду да беларусаў, да самой культуры гэтага славянскага народа. З чацвёртага курса пайшоў у польскае войска і больш у семінарыю не вярнуўся: заняўся сельскай гаспадаркай.

Для А. Цыхуна, як і для многіх заходніх беларусаў, вайна пачалася ў 1939 годзе, калі яго, як рэзервіста, прызвалі на службу. На яго вачах Варшава абаранялася, як магла, і пала 22 лістапада 1939 года. Палон. Уцёкі і вяртанне дамоў. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з Усходняй Апанас Пятровіч становіцца настаўнікам Лашанскай школы.

Пачатак Вялікай Айчыннай вайны застаў настаўніка пад Беластокам, дзе ён аказаўся на ваенных зборах, толькі ўжо ў Чырвонай Арміі. Зноў сутыкнуўся твар у твар з немцамі. Часць была разбіта, і яе рэшткі засталіся прадастаўленымі самі сабе. Людзі ратаваліся, як маглі. Цяжкія гады акупацыі і жыццё на глухім хутары Агароднікі. Потым — служба ў Савецкай Арміі, праўда, нядоўга, і яму, як настаўніку, выдалі бронь. Зноў Лашанская школа, потым — Калбасінская, Батароўская школы. Вучыўся і сам: скончыў завочна ў 1950 годзе Гродзенскі педінстытут імя Янкі Купалы. Шмат гадоў працаваў інспектарам Гродзенскага раённага аддзела народнай адукацыі. Гэта давала яму магчымасць ездзіць па вёсках, запісваць беларускі фальклор. Сабраўся вялікі вуснапаэтычны скарб, які яшчэ раз пацвярджае, што можа зрабіць сапраўдны педагог. Сам адчуў духоўны водар гэтай зямлі і даў гэта адчуць сваім вучням...

Поруч з запісамі песень, казак, прымавак, загадак, забаўлянак у сшытак кладзіся нататкі па народнай гутарковай мове. Так паступова ў настаўніка склаўся ўласны вельмі цікавы «Слоўнік дыялектнай лексікі і фразеалогіі Гродзенскага раёна».

А яшчэ ён паэт. Апанас Цыхун змяшчаў свае вершы ў гродзенскай абласной і раённай газетах, у «Настаўніцкай газеце», «Сельской газете», у калектыўных зборніках «Наднёманскія былі», «Краю мой — Нёман». Пісаў і творы для дзяцей, што друкаваліся ў часопісе «Бярозка». Ён і ў паэзіі таксама краязнавец, і, здаецца, ніводзін верш не напісаны па-за Гродзеншчынай: «Балада пра Давыда — князя Гарадзенскага», «Кунцаўшчына», «Акадэміку Я. Ф. Карскаму», «Магіла паўстанцаў», «Дуб Яна Чачота», «Балада пра Э[illegible] Ажэшку», «Каложа» і ін[illegible]. Нават у вершы «Родная мова» ён застаецца гродзенчуком.

**Дзе шлях свой цярэбіць да**
**Балтыкі Нёман,**
**Дзе дрэмле ўрачыста**
**ў вяках Белавеж,**
**Д[illegible]ікала ў бой**
**з крыжакамі**
**Пагоня —**
**Там родная мова між нас**
**не засне.**

Ужо прайшло больш за дваццаць гадоў, як Апанасу Пятровічу даручылі кіраваць літаратурным аб'яднаннем пры гродзенскай раённай газеце. Вядома ж, паверылі ў аб'ектыўнасць яго суджэнняў. І не памыліліся: з тактам мудрага педагога і літаратара ён хораша падтрымлівае творчую моладзь.

Праляцела шмат зімаў і летаў. Ужо і восемдзесят за плячыма, а душэўны неспакой за родную мову, літаратуру, краязнаўства не пакідаюць заслужанага настаўніка БССР А. Цыхуна. Вялікі жыццёвы вопыт дае яму права на ўспаміны пра тых людзей, з кім зводзіў яго лёс. І гэта ён робіць з ашчаднасцю працавітага беларуса, каб нідзе нічога не страцілася з нашай спадчыны.

Некалькі месяцаў назад мы чыталі ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» яго роздум-успамін пра лёс забытага паэта і публіцыста Макара Краўцова. Значыць, яшчэ адно «зернейка» дагледжана.

На святы ў хаце Апанаса Пятровіча становіцца галасцей: прыязджаюць тры сыны — Генадзь, Пётра і Міхась — са сваімі сем'ямі. Кожны з сыноў выбраў сваю сцяжынку. Старэйшы Генадзь Апанасавіч — вядомы беларускі славіст, доктар філалагічных навук, кіруе адным з падраздзяленняў Інстытута мовазнаўства АН БССР. Ды і малодшыя сыны знайшлі сабе справу па душы. Унукі бяруцца ў людзі, таксама клопат для старэйшага А. Цыхуна. Такі ўжо ён чалавек.

**Генадзь КАХАНОЎСКІ.**

# АДКРЫТЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Музей беларускай культуры адкрыўся на Беласточчыне. Стварыўся ён на грамадскія сродкі, сабраныя ў Беларусі, ахвяраваныя замежнымі беларусамі, з удзелам Міністэрства культуры БССР і Гродзенскага аддзялення Беларускага фонду культуры, Беларускага таварыства «Радзіма».

Пакуль не аформлена пастаянная экспазіцыя, наведвальнікам музея прадстаўлена часовая выстаўка, арганізаваная Беларускім таварыствам «Радзіма» і Саюзам мастакоў БССР.

Тэматыка, падбор экспанатаў аб'яднаны назвай першай выстаўкі музея — «Жыве Беларусь». Менавіта ў гэтым пераканаюць наведвальнікаў лепшыя ўзоры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, жывапіс, графіка, скульптура, плакат.

**Віктар ШВЕД**

## БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ

*З нагоды адкрыцця Беларускага музея ў Гайнаўцы.*

**Казалі нам, што ў вочы рэжа**
**І што псуе турыстам крой,**
**Музей няпольскі ў Белавежы,**
**Паміж дубоў, паміж зуброў.**

**Нялюдскім варварскім загадам,**
**Як крывадушнік-фарысей,**
**Хутка ліквідавалі ўлады**
**Этнаграфічны наш музей.**

**Даробак знішчылі багаты**
**Нашых сяліб, нашай зямлі,**
**І унікумы-экспанаты**
**У Цехановец аддалі.**
**І мы, упартыя, гадамі,**

**З ахвяр грашовых землякоў,**
**З натугаю будуем самі**
**У Гайнаўцы музей ізноў.**

**І ў павільёне ўжо гатовым,**
**Што вырас нам, як**
**прыгажосць,**
**Музей мы адкрываем новы,**
**Усім праціўнікам на злосць.**

**Дык, людцы добрыя, у хатах,**
**На панадворках чым хутчэй**
**Збірайце зноўку экспанаты,**
**Узбагачайце наш музей!**

# ЦІКАВЫ КАЛЯНДАР

«Беларускі каляндар» на 1991 год неўзабаве прыйдзе да чытача. Тэкставы і ілюстрацыйны матэрыял у ім размяшчаецца падзённа. Тут каля 130 здымкаў, многія з іх — каляровыя. Асабліва прывабныя пейзажы, якімі пачынаецца кожны месяц. Звесткі самыя розныя. Ёсць даныя па Сонцу — усход, захад, даўжыня дня. Для Месяца прыведзены дакладны час пачатку яго фаз, іншыя астранамічныя разлікі. Каляндар адрасуецца ўсім, хто любіць свой край, яго гісторыю, спадчыну, мастацтва, літаратуру. Асобныя матэрыялы ўзяты са старых календароў, «Нашай нівы». Прыводзяцца народныя прыкметы, адзначаюцца святы, юбілеі знакамітых асоб і падзей, звязаных з Беларуссю. Мацi знойдзе ў календары калыханку для дзіцяці. Многім прыйдзецца даспадобы імяннік, у якім прыводзяцца імёны, што адпавядаюць менавіта гэтаму дню, а таксама гараскоп.

Значная частка матэрыялаў календара расказвае пра жыццё і творчасць Максіма Багдановіча, чыё 100-годдзе з дня нараджэння адзначаецца ў 1991 годзе. Друкуюцца асобныя творы паэта ці ўрыўкі з іх, змешчана шмат здымкаў, на якіх і сам Максім, і яго блізкія, і тыя мясціны, дзе ён жыў ці быў.

Каляндар каштуе 3 рублі 20 капеек. Тыраж 20 тысяч экземпляраў.

## *У ПРОМЫСЛА ЁСЦЬ БУДУЧЫНЯ*

# МАЗЫРСКАЯ КЕРАМІКА

Ёсць на зямлі беларускай такія мясціны, дзе найбольш ярка цвітуць народныя таленты. Неглюбка, Івянец, Моталь, Агова — гэтыя цэнтры народнага мастацтва вядомы не толькі ў рэспубліцы. У мастацкіх промыслах у нашы дні з'яўляюцца і новыя адкрыцці. Мазырская кераміка... Да нядаўняга часу гэтае спалучэнне слоў не выклікала асацыяцый. Цяпер, калі ў Музеі беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах, што пад Мінскам, адкрыта выстава «Мазырская кераміка», можна гаварыць аб нараджэнні новай з'явы ў беларускіх мастацкіх промыслах.

Кераміка Мазырскай фабрыкі мастацкіх вырабаў упершыню экспануецца ў выставачнай зале. Гэта персанальная выстаўка мазырскіх мастакоў Міхаіла Васкоўскага і Дзмітрыя Полаза, на якую яны прадставілі больш за 120 работ. Адначасова гэта і «персанальная» выстаўка прадпрыемства.

Вырабы масавай вытворчасці, як правіла, не вытрымліваюць выпрабавання выстаўкай. Размясціўшыся ў музеі, яны раптам агаляюць сваю спрошчанасць і непрыгажосць, поўную адсутнасць прыкмет твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. З мазырскай керамікай гэтага не здарылася. Сабраныя на выставачных подыумах і вітрынах рэчы, прызначаныя для штодзённага жыцця чалавека, зайгралі ва ўсёй прыгажосці форм і дэкору. Атрымалася свята.

Разнастайныя наборы посуду, вазы, кубкі, дэкаратыўныя скульптурныя творы — звяры, дробная дэкаратыўная пластыка... Кераміка паліваная з бліскучымі люстравымі глазурамі, распісаная эмалямі, чорназадымленая і тэракота. У такой шырокай палітры керамікі ўгадваецца наватарскія творчыя пошукі і пераемнасць старажытных традыцый.

Міхаіл Васкоўскі за пятнаццаць гадоў работы на фабрыцы стварыў мноства ўзораў. Яны пастаянна тыражуюцца, не губляючы з гадамі сваёй прывабнасці. Ён аўтар арыгінальных набораў посуду «Матылёк» і «Вячэрні», прыгожых дэкаратыўных падсвечнікаў, ваз, кубкаў. Мастак паспяхова працуе і ў дэкаратыўнай скульптуры. Ён лепіць фантастычных звяроў з туловам у выглядзе пасудзіны. Асабліва яму ўдаецца дробная пластыка — тэракотавыя фігуркі. «Беларус», «Несцерка», «Сенакос», «Жніво», «Валачобнікі», «Палескія музыканты» — у іх амаль этнаграфічна трапна перададзены беларускі тыпаж, асаблівасці народных строяў. Васкоўскі з дзяцінства добра ведае народны быт, абрады і звычаі беларусаў. У іх ён чэрпае вобразы і сюжэты для сваёй керамічнай пластыкі. Многія яго творы вызначаюцца гумарыстычнай характарыстыкай, нярэдка ў іх угадваюцца рысы самога мастака.

У апошнія гады Васкоўс[illegible]захапіўся асваеннем народных прыёмаў вырабу цацак-свістулек, ганчарнай тэхнікай, узнаўленнем тэхналогіі чорназадымленай керамікі. У гэтай тэхніцы для выстаўкі ён выканаў [illegible]кія дэкаратыўныя скуль[illegible]ы зуброў, наборы глякоў і іншага посуду.

Дзмітрый Полаз малады, але яго творчы стаж на фабрыцы ўжо дзесяць гадоў. Мастак мае ўласны пластычны стыль. Яго тэракотавую пластыку — «Ганчар», кампазіцыі «Квартэт», «Ваенны аркестр» не зблытаеш з фігуркамі Васкоўскага. Своеасаблівы характар маюць і вылепленыя ім фігурацыйныя пасудзіны — «Сабака», «Пятух». Мастак умее арганічна злучыць у адно цэлае дэкаратыўнае скульптурнае адлюстраванне з бытавым прызначэннем прадмета. Удаюцца яму падсвечнікі, скарбонкі, ёмістасці для мёду, кубкі. У наіўнай і гратэскнай характарыстыцы скульптурных персанажаў гэтых рэчаў угадваюцца народныя абрысы вясёлага кірмашовага мастацтва.

Аб'ядноўвае мазырскіх мастакоў прыроднае пачуццё стыхіі народнага мастацтва. Іх вобразы і персанажы, рэальныя ці фантастычныя, заўсёды добрыя і чалавечныя, яны з народных казак, фальклору. Якімі б індывідуальнымі шляхамі ні развівалася творчасць кожнага з мастакоў, гэты камертон — прыналежнасць да беларускай народнай культуры — вядзе іх да адной мэты.

Саматужны характар вытворчасці, ручная праца, малыя тыражы дазваляюць захаваць у мазырскай керамікі высокі ўзровень мастацкай якасці, не абвязлічыць аўтарскія задумкі мастакоў у масавай прадукцыі. Думаецца, у промысла добрая будучыня. Рукатворнасць, прыгажосць, унікальнасць і шчодрасць дабраты—якасці, якія ў любыя часы не падвяргаюцца дэвальвацыі.

**Вольга ЛАБАЧЭЎСКАЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: на выстаўцы; Д. ПОЛАЗ. Дэкаратыўная скульптура «Чарцяня» і дэкаратыўны посуд «Квасніκі».**

**Фота М. МІНКОВІЧА.**

## *АКТУАЛЬНАЕ Ў ПРЭСЕ*

# СТРАСЦЬ ДА РАЗБУРЭННЯ ЦІ ПРАГА СВАБОДЫ?

Нашу ўвагу прыцягнуў змешчаны ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» палемічны артыкул Пётры Васілеўскага «Пра нашы помнікі, «своеасаблівае варварства» і «людзей асобага складу». Падаём яго нашым чытачам у пераказе, таму што многія думкі аўтара і меркаванні здаюцца нам слушнымі, падыход да праблемы даволі спакойны і ўзважаны. А праблема, пра якую ідзе гаворка, — нашы адносіны да помнікаў на гэты раз не вельмі далёкага мінулага і, у прыватнасці, да шматлікіх помнікаў У. І. Леніну на тэрыторыі Беларусі (і не толькі Беларусі). Аўтар зазначае, што ў Савецкай краіне за гады яе існавання ўжо двойчы праводзілася рэдагаванне «манументальнага летапісу». Зараз ідзе трэцяя хваля «рэдагавання» гісторыі, занатаванай у помніках і манументах. Рухаючай сілай тут з'яўляецца эмацыянальны настрой нізоў. «Праўда,—піша П. Васілеўскі,— сям-там на гэтым настроі робіцца вялікая і не вельмі сумленная палітыка. Партыйна-савецкі апаратчык разумее, што лепей скінуць з пастамента бронзавага Ільіча, чым самому сягаць з алімпа ўлады ў хвалі віруючага натоўпу».

«Будаўнікі новага свету», няздольныя зрабіць нешта лепшае за свайго ідэалагічнага апанента, на працягу 70 гадоў знішчалі пл[illegible] чужой працы і памяць аб [illegible]ых часах, каб не было з чым параўноўваць. Сёння нам такія метады не падыходзяць, бо ў такой барацьбе нараджаюцца толькі новыя пакаленні варвараў. «Незалежна а[illegible]айго ўласнага стаўлення [illegible] камуністычнай ідэі, яе мёртвых карыфеяў і жывых носьбітаў, — зазначае П. Васілеўскі, — я не хацеў бы, каб перасталі існаваць помнік Леніну ў Берліне работы Томскага, помнік Карлу Марксу ў Хемніцы (у гэдээраўскі час — Карл - Маркс - штаце) работы Кербеля, шэраг іншых манументальных твораў за межамі СССР і ў Саюзе, у якіх даволі спрэчная камуністычная ідэя знайшла таленавітае адлюстраванне. Падкрэсліваю—**таленавітае**, бо нязграрная штукарства не шкада. Яшчэ падкрэслю, што не варта рабіць з разбурэння свята, і мастацкая недасканаласць помніка не можа быць апраўданнем вандалізму.

І ў нас у Беларусі, гаворыць аўтар, да шматлікіх «Ленінаў» трэба ставіцца як да знакаў часу і вырашаць лёс кожнага помніка асобна, зыходзячы найперш з эстэтычных і культуралагічных крытэрыяў. Большасць ні з гістарычнага, ні з мастацкага боку цікаўнасці не ўяўляюць. Гэткі правінцыйны сацрэалізм, каланіяльны ампір. Але ж дабротныя, прафесійна зробленыя «Леніны» Анікейчыка, Бембеля, Глебава, Гумілеўскага трэба ўзяць пад ахову дзяржавы разам з руінамі феадальных замкаў і рэшткамі першабытных стойбішчаў.

Страсць да разбурэння нельга блытаць з прагай свабоды. Да прыкладу, гаворыцца ў артыкуле, у некаторых гарадах Грузіі зняты помнікі Леніну, але ў Горы стаіць помнік Сталіну. Бо гэты кат — «свой». У Польшчы зняты ўсе помнікі Леніну і іншым дзеячам, якія маюць хоць ускоснае дачыненне да камунізму. На п'едэстале іх месца займе Пілсудскі, дыктатар мясцовага гатунку.

Шмат агульнага з польскім мае і літоўскі падыход да помнікаў недалёкага мінулага. Так, сённяшняе кіраўніцтва Літвы спасылаецца на Леніна як на ісціну ў апошняй інстанцыі ў пытаннях незалежнасці Літоўскай Рэспублікі і яе тэрытарыяльных інтарэсаў. Ленінскі дагавор з Літвою (1920 год), у якім маскоўскія бальшавікі прызнаюць Літву (Летуву) у якасці суверэннай дзяржавы і падтрымліваюць яе прэтэнзіі на заходнія землі Беларусі (беларускай думкай наконт гэтага, зразумела, Масква і Коўна не пацікавіліся), — сёння галоўны аргумент Літоўскай Рэспублікі ў перамовах з Цэнтрам. Бо вельмі ж не хочацца разам з аднаўленнем канстытуцыі Літвы 1938 года вяртацца ў дзяржаўныя межы, зацверджаныя гэтай канстытуцыяй, пераносіць сталіцу на старое месца. Разам з тым па ўсёй Літве здымаюцца помнікі Леніну, хоць, здавалася б, хросны бацька Літоўскай Рэспублікі мае права на ўдзячную памяць. Па логіцы: калі спасылаешся на аўтарытэт Леніна, дык шануй яго помнікі—ці, калі руйнуеш помнікі і робіш з гэтага народнае свята, не спасылайся на ленінскую спадчыну, на той жа бальшавіцка-літоўскі дагавор.

Крый Божа, гаворыць аўтар, я не збіраюся павучаць літоўцаў, што і як ім рабіць. Я пішу для сваіх, думаючы пра нашу, беларускую сітуацыю. Бо неўзабаве і нам давядзецца распачаць рэвізію нашай «ленініяны», а крытычна асэнсаваўшы вопыт суседзяў, мы можам пазбегнуць непатрэбных нам сацыяльных канфліктаў. Чырвоны сцяг, серп-молат, Ленін — гэта прызнаныя ва ўсім свеце сімвалы савецкай звышдзяржавы. На Беларусі, дзе многія проста не разумеюць слова «незалежнасць», увогуле не ўяўляюць, як гэта можна без Саюза ССР, без Масквы, знявага сімвалаў (назат выпадковая) можа напалохаць і без таго знерваваных людзей.

Немалыя цяжкасці паўстануць перад архітэктарамі і мастакамі, калі справа дойдзе да перагляду мастацкага аздаблення Дома ўрада. Як захаваць яго ў якасці комплекснага помніка архітэктуры і мастацтва 30-х гадоў і адначасова зрабіць адпавядаючым новаму часу? Помнік Леніну перад будынкам і «БССРэўскі» герб на фасадзе наўрад ці будуць ставацца з бел-чырвона-белым сцягам (а некалі ж ён вернецца). Але ж нішчыць той фасадны герб у мірны час, асабліва калі ён перажыў вайну, не гуманна. Аўтар спадзяецца, што і герб будзе мець права застацца ў якасці памятнай шыльды. А над ім размесціцца, трэба думаць, выява «Пагоні» — старадаўні герб Беларусі.

Інтэр'еры Дома ўрада—іншая справа. Тут без радыкальнай перабудовы не абысціся. Рэльефы 30-х гадоў і пазнейшая аздоба (бюст Леніна ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета і іншае) могуць стаць часткай экспазіцыі «Музея афіцыёзу». Плошча, якая сёння носіць імя Леніна, яшчэ не мае свайго дамінанты. Усе яе пабудовы — Дом урада, Чырвоны касцёл, гмах педагагічнага інстытута—толькі фон для галоўнага аб'екта, для якога нібыта спецыяльна пакінута месца ў цэнтры плошчы. Ім мог бы стаць Храм Ахвяраў Чарнобыля ці манумент, скажам, у памяць 25 сакавіка 1918 года.

Пераацэнка манументальнай спадчыны адыходзячай эпохі, заключае свой артыкул Пётра Васілеўскі, гэта крок да суверэнітэту. Зрабіць гэту справу трэба спакойна, разважліва, як належыць цывілізаваным людзям, без «своеасаблівага варварства», да якога так схільны «людзі асобага складу».

